Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

• №46(82) ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ • 15-21 лістапада 1996 года. • Цана 1500 руб.

## Падзея тыдня

Прэзідэнт і парламент могуць толькі параіцца з народам адносна сваіх праектаў змяненняў Канстытуцыі краіны. Рэферэндум па гэтых пытаннях можа мець толькі кансультацыйны характар, а не абавязковы– такое рашэнне прыняў Канстытуцыйны суд Беларусі. Аб гэтым нам будзе напамінаць апошні абзац бюлетэня для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме ў Рэспубліцы Беларусь 24 лістапада 1996 г. Прэзідэнт жа выдаў свой чарговы указ, дзе рашэнне Канстытуцыйнага суда адносна пытанняў змяненняў Канстытуцыі прызнана несапраўдным, бо яно супярэчыць Канстытуцыі і абмяжоўвае канстытуцыйнае права грамадзян на ўдзел у рэферэндуме і ў адпаведнасці з гэтым пастанавіў: пытанні пераносу Дня незалежнасці і прыняцця Канстытуцыі РБ выносяцца на абавязковы рэферэндум, рашэнні якога будуць канчатковымі, а пытанні куплі і продажу зямлі і аб адмене смяротнай казні выносяцца на кансультацыйны рэферэндум. Адным з пунктаў указа ўскладаецца персанальная адказнасць за выкананне гэтых патрабаванняў на старшыню Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэдумаў В. І. Ганчара.

У апошні час старшыня Цэнтрвыбаркома знаходзіцца ў цэнтры палітычных падзей. Не стала выключэннем і нарада кіраўнікоў раённых, гарадскіх, абласных Саветаў са старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шарэцкім. Выступаючы на ім, В. Ганчар заявіў, што прэзідэнт і Вярхоўны Савет праявілі поўную палітычную безадказнасць з пункту погляду планавых мерапрыемстваў па рэферэндуму. Парламент не вызначыў віды рэферэндумаў па пяці пытаннях. А прэзідэнт сваім указам прымушае В. Ганчара не выконваць рашэнні Канстытуцыйнага суда. Акрамя таго, старшыня Цэнтрвыбаркома не збіраецца падпісваць абагульняючага пратаколу па рэферэндуму і звярнуў увагу на тое, што пакуль на ўчастках не з'явяцца абодва праекты Канстытуцыі, галасаванне будзе лічыцца самадзейным.

Аналізуючы гэтыя факты, В. Ганчар звярнуўся да кіраўніцтва Вярхоўнага Савета з просьбай вярнуцца да пытання аб даце рэферэндуму. "Калі нехта думаў, што можна правесці рэферэндум па сваіх правілах, па указах якія супярэчаць рашэнню Канстытуцыйнага суда, з дапамогай штабоў, то гэта глыбокая памылка,"– заявіў ён.

Такім чынам, можна ўжо сёння з упэўненасцю сцвярджаць, што рэферэндум 24 лістапада наўрад ці апраўдае надзеі, што ўскладаюцца на яго, і тым больш ніяк не паспрыяе аб'яднанню нашага грамадства.

*Аляксандр УЛАДЗІН.*



# У інтэрнаце без сям'і і гарачай вады апынуўся старшыня Ашмянскага райвыканкома

***Віктар Пракопчык, заступіўшы на пасаду старшыні райвыканкома, адразу сутыкнуўся з парадоксам.***

У квартале Будаўнікоў у дваццаціаднакватэрным жылым доме заселеныя 8 кватэр. У саракакватэрным– 25. Хтосьці ўдала ўклаў грошы ў нерухомасць. Пахне сур'ёзнымі парушэннямі. Дакладна вядома, што адзін з няўлоўных кватэраздымшчыкаў жыве ў Латвіі. Праблема вострая. І сёння раённы бюджэт самастойна яе не вырашыць. Да зімы плануецца перавесці будаўнічыя работы трыццацідвухкватэрнага дома пад дах (кватэры ўжо размеркаваныя). Праз год– дзяцей ў новы будынак СШ №1. У гэтым абяцае дапамагчы вобласць. А наогул, усіх жадаючых пабудаваць жыллё падтрымаюць дзяржаўнымі крэдытамі.

Новы кіраўнік паспеў правесці адну планёрку і ўзняў для ўсіх балючае пытанне– ці будзе цёпла ў кватэрах зімой? Па словах начальніка жыллёва-камунальнай гаспадаркі, пры эканоміі паліва праблемы не ўзнікнуць. І эканоміць пачалі. Старшыня райвыканкома пасяліўся пакуль без сям'і ў інтэрнаце мясцовага тэхнікума і, як усе, гарачай вадой карыстаецца толькі вечарам. Балючым месцам Віктар Іванавіч назваў сітуацыю, якая склалася ў вытворчасці на торфабрыкетным, цагельным заводах. Колькасць беспрацоўных у раёне марудна, але павялічваецца. У цэнтры занятасці зарэгістравана каля 400 чалавек– 7% ад агульнай колькасці працаздольных.

Каб дэталёва азнаёміцца са станам спраў у гаспадарцы, патрэбны час. Хто са старой гвардыі застанецца працаваць з новым старшынёй– пакуль пытанне нумар адзін. Па чутках, рыхтуецца месца дырэктара сярэдняй школы для аднаго з намеснікаў.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны

### Трагедыя ў Ракаве

***Народнае мудраслоўе трапна характарызуе некаторых выпівох: "Як да чаркі– скоры, як да працы– хворы".***

Гэта якраз пра жыхара Ракава Івана Р., які вось ужо тры гады нідзе не працаваў, жыў нібы ў тумане пасля штодзённых выпівак. Гарэлка, як вядома, яшчэ нікога не рабіла разумнейшым, і грамадзянін Р. не выключэнне. Але тое, што здарылася нядаўна, наогул выходзіць за рамкі разумення.

Ніхто ўжо не даведаецца, што памкнула 55-гадовага мужчыну ўзяць у рукі сякеру і забіць жонку, маці сваіх дзяцей. А каб схаваць канцы злачынства, вырашыў падпаліць уласнае жытло. Абліў саляркай труп жонкі, дом, мэблю, дываны, з другой каністрай пагаспадарыў у гаражы, потым– у хляве, разліў салярку па саломе. Урэшце-рэшт абліў і сябе. Вяскоўцы бачылі, як ён бег па вуліцы і палаў як факел.

Пажарныя выратавалі дом, гараж, свіней, згарэў толькі хлеў. Сам забойца і падпальшчык з 90% апёкаў скуры трапіў у апёкавы цэнтр. Надзей на жыццё не заставалася....

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Нямецкая свіння смачней на нашым вугалі

***СМАРГОНЬ. У лясгасе з драўніны выпальваюць вугаль. Больш як трэцяя частка экспартуецца ў Германію і Галандыю. Там яго выкарыстоўваюць у медыцыне, металургіі і... прыгатаванні шашлыкоў.***

А яшчэ гэтыя краіны разам з Польшчай і Італіяй купляюць у лясгасе буйныя і дробныя цыліндрычныя бапансы. Прасцей кажучы, завостраныя калы. Можа, да іх падвязваюць дрэвы, можа што іншае. Гэта ўжо іхнія справы. Разлічваюцца валютай– значыць тавар патрэбны.

*Альберт КУМІШЧА.*

### Бывай, жыццё

***АШМЯНЫ. У адзін з цёплых асенніх дзён тры мужчыны спрабавалі развітацца з жыццём.***

Трыццацігадовыя атручваліся таблеткамі, рэзалі артэрыю на шыі, пратыкалі пячонку. Наогул за кастрычнік 7 чалавек спрабавалі звесці рахункі з жыццём. З пачатку года "пашчасціла" 17 жыхарам. Летась наклалі на сябе рукі 22 чалавекі.

Тэндэнцыя такая– хто цвёрда вырашыў, выкарыстоўвае вяроўку. Гэта ў асноўным людзі сярэдняга ўзросту. Моладзь часцей "забаўляецца", таму часцей яе прыводзяць у прытомнасць. А ў адной сям'і гаспадар два разы за год спрабаваў пайсці на той свет.

Ні па адным выпадку суіцыду крымінальная справа не заводзілася– няма падстаў.

*Валянціна ДРАЗДОВА.*

### Кусаюцца не толькі сабакі

***ВАЛОЖЫН. За дапамогай з-за ўкусаў жывёлы ў раённую бальніцу з пачатку года звярнуліся 118 чалавек, праўда, прышчэплены былі толькі 25 з іх. Расходавана дэфіцытнай вакцыны на 4 мільёны рублёў.***

Дарэчы, у двух выпадках людзей пакусалі шалёныя лісы (у вёсках Цішкаўшчына і Яшкавічы Яршэвіцкага і Бабровіцкага сельсаветаў), яшчэ ў двух– карова, якая аказалася не шалёнай, а проста хворай, у чатырох– кошкі, астатнія былі пакусаныя сабакамі, толькі 5 з іх былі бадзячымі.

Як сцвярджае памочнік урача эпідэміёлага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Таццяна Чарнякова, у большасці выпадкаў людзі самі правакавалі ўкусы жывёлы. Асабліва не церпяць сабакі п'яных.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

### Старшыня- М.Кавалёў

***СМАРГОНЬ. Пасля так званага аб'яднання выканаўчых уладаў Смаргоні і раёна Указам прэзідэнта РБ ад 5 лістапада старшынёй райвыканкома прызначаны Мікалай Кавалёў.***

Пазаўчора ён быў афіцыйна прадстаўлены кіраўнікам службаў. Цяпер пачне дзейнічаць камісія па перадачы маёмасці ў адны рукі.

*Аддзел інфармацыя.*

## Адным абзацам

□ У рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы 9 лістапада адбылася афіцыйная сустрэча з дэлегацыяй Кітая. Адно з разгледжаных пытанняў – будаўніцтва еўраазіяцкага транспартнага шляху праз Беларусь, Расію, Кітай. Як стала вядома, КНР можа прадставіць Беларусі бязвыплатную дапамогу ў 3 мільёны юаняў.

□ Апошнім часам часцей заўважаецца аднабаковае асвятленне рэферэндуму дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі. Супраць гэтага выступаюць дэмакратычныя сілы, якія 17 лістапада плануюць правесці дэманстрацыю пратэсту. Збор удзельнікаў запланаваны ў 11-00 на плошчы Я. Коласа.

□ З 1 снежня ўступаюць у дзеянне новыя правілы пакупкі білетаў на чыгуначны транспарт. Так, выгадней за ўсё набываць білеты за 45-10 сутак да адыходу цягніка, таму што не будзе брацца камісійны збор. Але з білетаў, набытых за 9 сутак і меней, а таксама на зваротны выезд, камісійны збор бярэцца.

□ А з 1 лістапада ўведзены на чыгунцы яшчэ адны правілы праезду на прыгарадных цягніках для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў. Яны будуць ездзіць бясплатна. Для гэтага патрэбна кожнаму аформіць так званы адзіны білет, завераны пячаткай і подпісам кіраўніка навучальнай установы, якая яго выдала.

□ З 23 па 29 лістапада ўжо трэці раз у Мінску пройдзе фестываль постсавецкага кіно "Лістапад-96". У рамках яго будзе паказана лепшае кіно рэспублік былога Саюза, якое можна будзе ўбачыць у сталічных кінатэатрах "Перамога", "Кастрычнік", "Цэнтральны".

□ Гэты тыдзень быў доўгачаканым для ўсёй моладзі і прайшоў як Міжнародны студэнцкі тыдзень. Беларускі Саюз Моладзі распрацаваў праграму свята, у рамках якога прайшлі: фестываль універсітэцкіх рок-гуртоў, сустрэчы з элітарным клубам "Што? Дзе? Калі?", фестываль каманд КВЗ рэспубліканскіх сярэдніх навучальных устаноў і прафтэхвучылішчаў.

□ У нядзелю ўступаюць у абарачэнне новыя разліковыя білеты вартасцю 100000 рублёў. З аднаго боку банкноты– фрагмент з балета Я. Глебава "Выбранніцы". З другога– будынак Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета.



## Вашы правы

# Вы можаце скардзіцца. Нават на міліцыю

***Сённяшні госць "РГ" намеснік пракурора маладзечанскай міжрайпракуратуры Таццяна ГРЭЧКА. Прыгожая жанчына з вялікімі і добрымі вачыма. Яна вядзе нагляд за выкананнем нормаў закону ў міліцыі, нагляд за дазнаннем, за ўтрыманнем людзей у следчым ізалятары.***

***— Таццяна Віктараўна, у пакрыўджаных людзей, якіх напаткала гора, часам складваецца ўражанне, што ў праваахоўных органах няма парадку. Няма кантролю за паводзінамі асобных супрацоўнікаў міліцыі, за распачынаннем крымінальных спраў і даследваннем. А ёсць цяганіна і бюракратыя...***

– Так. Гэткае меркаванне ёсць. Аднак кожная заява грамадзян у міліцыю, а таксама ўсе скаргі ў праваахоўчыя органы рэгіструюцца, трымаюцца на ўліку і пад кантролем пракуратуры. Нават тыя, якія датычацца сямейных сварак: "Прыміце меры да майго мужа..." Мы сочым, каб меры сапраўды прымаліся. Вядзём пры неабходнасці паралельнае даследаванне, вызначаем абставіны.

Людзей часта крыўдзіць адмова на распачынанне крымінальных спраў, іх спыненне. Можна зразумець пачуцці тых, хто пацярпеў пасля страты роднага чалавека, ці ад нейкага іншага здарэння. Ім здаецца, што справы зацягваюцца, спыняюцца наўмысна, каб абвінавачваемы змог пазбегнуць адказнасці. На самой справе інакш. Следства не можа грунтавацца і весціся на здагадках. Неабходныя доказы, наяўнасць саставу злачынства.

У гэтым годзе адмоўленых матэрыялаў больш за тысячу. Значная з іх частка– заявы з бальніц. Медыкі павінны абвяшчаць пра факты цялесных пашкоджанняў, з якімі трапляюць да іх людзі. Кожны такі факт правяраем. Апрошваем сведкаў, вызначаем абставіны. Калі пацярпелы ні да каго не мае прэтэнзій, у распачынанні справы адмаўляем.

Выкрываем факты, калі састаў злачынства ёсць, а супрацоўнікі міліцыі спрабуюць утаіць гэта. Аднойчы мясцовага хлопца збілі прыезджыя з Каўказа. Зламалі нос. У міліцыі яго ўгаварылі забраць заяву. Пры даследванні ў пракуратуры хлопец прызнаўся, што гэта было супраць яго жадання. Справа была распачата.

Нагляд за законнасцю дзеянняў міліцыі таксама датычыцца строгай прытрымцы тэрмінаў дазнання. Сочым, каб ён не зацягваўся.

***— Ці падаюць грамадзяне скаргі на супрацоўнікаў міліцыі? На тое, што іх збіваюць непасрэдна міліцыянеры?***

– Скаргаў шмат на грубае абыходжанне. У асноўным на аператыўнікаў пры затрыманні. Аднак даказаць факт збіцця, дакладней, перабольшвання ўжытых спецсродкаў, цяжка. Толькі па адной такой скарзе на збіццё была заведзена крымінальная справа.

***— Што вы параіце чалавеку, які выпадкова апынуўся ў становішчы беспадстаўна затрыманага? Магчыма пры гэтым ён адчувае націск з боку міліцыянераў: з яго выбіваюць сведчанне...***

– Па-першае, не палохацца і не саромецца. Трэба патрабаваць сустрэчы з супрацоўнікамі пракуратуры. Гэта права кожнага затрыманага. Ніхто не можа пазбавіць яго гэтага. Як і права напісаць скаргу. Яна абавязкова будзе разгледжана. І прынятыя меры.

***— Што сёння ўяўляе сабою маладзечанскі ізалятар часовага ўтрымання (ІЧУ)?***

– Ён лічыцца ў вобласці адным з лепшых па ўмовах утрымання. Камеры разлічаны на 2-х і 4-х чалавек. Столькі і ўтрымліваецца. Непоўнагадовыя знаходзяцца асобна ад дарослых. Выключэнне– затрыманыя "сутачнікі". Іх у камеры 6-7 чалавек. Скаргаў на збіццё, на дрэнную ежу ці ўмовы ў ізалятары няма. Гэта, безумоўна, паказчык.

*Запісала Святлана САРОКА.*

Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

Працяг.
Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-45.

## Варажба на касцях, або Што недагаварылі вязні Вілейскай турмы

*Працягваем публікацыю допіса ў рэдакцыю Мікалая ЖУЧКО, які выказвае свой погляд на падзеі 1941 года, звязаныя з эвакуацыяй турмы ў Вілейцы.*

Іншымі словамі, "польскія незалежнікі" адназначна прэтэндавалі на тэрыторыю Беларусі і актыўна выкарыстоўвалі даволі выгадную для іх сітуацыю, што склалася на пачатковым перыядзе вайны.

Вернемся, аднак, да верасня 1939 года. Напярэдадні пераходу савецка-польскай граніцы НКУС СССР стварае дзесяць лагераў-размеркавальнікаў для польскіх ваеннапалонных. Што тычыцца непасрэдна Беларусі, то для перасылкі былі арганізаваныя прыёмныя пункты на станцыях Радашковічы, Стоўбцы, Цімкавічы, Жыткавічы.

З архіва КДБ Рэспублікі Беларусь: Цанава-Берыі:

*"Лагерь в Козельске открыт и принимает военнопленных общей численностью в 10000 человек. Из БССР первая партия военнопленных в количестве 217 человек отправлено в Козельск со ст. Жлобин, подготавливается к отсылке ещё 500.*

*На приёмный пункт Наркомздравом выделены и направлены врач, фельдшер и санитар с необходимыми запасами медикаментов.*

*Белкоопсоюз организовывает снабжение пунктов продуктами, торговля идёт через ларьки.*

*Кинофикация направляет кинопередвижки, союзпечать, обеспечивает журналами и др. литературой".*

Можа, каму-небудзь здасца дзіўным "сервіс", з якім ажыццяўлялася транспарціроўка польскіх ваеннапалонных углыб СССР, але як бы там ні было, з імі абыходзіліся ў адпаведнасці з палажэннямі міжнароднага права. Доказам таму з'яўляюцца зацверджаныя 20 верасня 1939 года эканамічным саветам пры СНК СССР сутачныя нормы забеспячэння: 800 гр. хлеба, 75. рыбы, 30 г. алею і г. д. У якім сталінскім лагеры адпускаўся такі паёк?

Каб не вяртацца да гэтага моманту, прывяду яшчэ і такія факты: 14 лістапада 1939 года СНК СССР прыняў пастанову аб абмене польскімі ваеннапалоннымі з Германіяй. Абмену падлягалі тыя, хто нарадзіўся на тэрыторыі Польшчы і Заходняй Беларусі , што пасля верасёўскіх падзей адыйшлі да Германіі і СССР. У выніку, як сцвярджае ў сваім артыкуле Філатаў, на 15 лістапада 1939 года ў Польшчу выехала 37133 чалавекі. Аб чым жа ўсё гэта сведчыць? Перш за ўсё аб дастаткова лаяльных адносінах у большай частцы да польскіх ваеннапалонных.

Асэнсоўваючы падзеі, сітуацыю таго перыяду ў Заходняй Беларусі, ніяк нельга пакінуць па-за ўвагай і дзейнасць НКУС. Ёсць думка, што хапалі ўсіх, хто не патрапіць, і без суда і следства адпраўлялі ў лагеры або ставілі "да сценкі". Я не хачу палемізаваць па гэтаму пытанню— здаралася ўсякае, працытую вытрымкі аднаго дакумента.

З архіва КДБ Рэспублікі Беларусь: Цанава-Берыі:

*"К началу создания оперативно-чекистских групп в тюрьмах Западной Беларуси было обнаружено много арестованных, посаженных частями РККА и народной милицией. В целях фильтрации этой категории арестованных, оперативно-чекистским группам пришлось потратить много времени и часть арестованных освободить за отсутствием состава преступления.*

*В настоящее время налажен учёт арестованных... Всех берём на карточный учёт, кроме этого берём на карточный учёт выявленых полицейских, б. офицеров польской армии, помещиков и др.*

*Известную трудность при вскрытии контрреволюционного, провокаторского, шпионского элемента создаёт то обстоятельство, что до занятия городов частями РККА, польская разведка, полиция, политическая полиция и др. гос. учреждения в основном уничтожили свои архивы, учёт агентуры.*

*Незначительную часть этих архивов в некоторых городах разведывательные органы и полиция уничтожить не успели и бросили в реки, закопали в землю и т. д.*

*Нами используются архивные материалы, находившиеся в НКВД БССР и Штабе пограничных войск Белорусского округа, по которым ориентированы оперативно-чекистские группы и производится изъятие контрреволюционного элемента.*

*Наряду с этим, материалы, уничтоженные разведывательными органами Польши, нами восстанавливаются через агентуру и следствие..."*

Як бачым, НКУС дзейнічаў зусім не ўсляпую. Тыя, хто не прадстаўляў для яго цікавасці, былі выпушчаны на свабоду, а тыя, хто ў той або іншай ступені меў адносіны да польскіх спецслужбаў, натуральна, заставаліся ў камерах. Аб польскай агентурнай сетцы вядома няшмат. А між тым, гэта была вельмі моцная і дасканала прадуманая сістэма. Напрыклад, Віленская экспазітура 2-га аддзела Польскага галоўнага штаба актыўна працавала супраць Савецкага Саюза, *"имея большое количество завербованных агентов как внутри Польши, так и на территории СССР"*. А па Брэсцкай акрузе польскімі спецслужбамі было завербавана звыш за 3 тысячы чалавек. Дакладна вядомая сувязь польскіх нацыяналістаў з нямецкай разведкай.

*Працяг будзе.*

Жыццё астравецкае

## Яны ведаюць, куды грошы ўкласці

***Фенаменальна! Менавіта так адным словам можна ахарактарызаваць з'яву, якую можна было назіраць не толькі атрымальнікам чэкаў "Маёмасць", але і работнікам аддзялення "Беларусбанка". Справа была наступнай.***

Мясцовае прадпрыемства ААТ Кардонная фабрыка "Альхоўка" прадавала 10800 акцый другога выпуску свайго прадпрыемства за чэкі. І што б вы думалі? У банку яго супрацоўнікі толькі і спраўляліся з кліентамі, якія штодня "штурмавалі" гэтую ўстанову. І прайшло толькі крыху больш за адзін тыдзень, як ад акцый не засталося "ні слыху, ні дыху".

Цікавасць да акцый фабрыкі "Альхоўка" тлумачыцца наступным. Першае— гэта прадпрыемства каторы год працуе ў стабільным рытме, пасьпяхова рэалізуе сваю прадукцыю і мае вялікі прыбытак. Другое— таму што яно мясцовае і абяцае кожны квартал выплочваць дывідэнды. І ўрэшце рэшт, адыграў немалую ролю і той факт, што не абдзялілі ўвагай гэтыя акцыі і "першыя людзі" ў райцэнтры. Хто хто, а яны ведаюць, куды ўкладаць грошы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## "Вундэркінд" не падвёў

***Шасцігадовая Таня Саханоўская з вёскі Індрубка адразу пайшла ў другі клас.***

Дзяўчынка вырасла ў звычайнай сям'і, не наведвала дзіцячы садок. Калі старэйшая сястра рыхтавала ўрокі, Таня садзілася побач. У шасцігадовым узросце ўжо без цяжкасці адрознівала літары і гукі беларускай мовы, пісала словы і нават сказы. Пералічвала лікі, складала і адымала, выконваючы матэматычныя задачы. Калі падышоў час ісці ў школу, бацькі звярнуліся ў аддзел адукацыі з просьбай прыняць іх дачку адразу ў другі клас. Па словах метадыста аддзела адукакцыі Лілії Янкоўскай, часцяком бацькі хочуць пратэсціраваць сваіх пяцігадовых дзяцей, каб аддаць раней у школу. Але здароўе перш за ўсё, нагрузкі ў старэйшых класах вялікія, таму спецыялісты РАА у такіх просьбах адмаўляюць.

Можна лічыць выключэннем выпадак з Таняй Саханоўскай. Па заключэнню ўрачоў, дзяўчынка добра развітая фізічна і разумова. І "вундэркінд" не падвёў— вучыцца на выдатна. Як адзначыла яе настаўніца Алена Русецкая, Таня спакойная, памяркоўная, нічым не адрозніваецца ад сваіх аднакласнікаў.

*Галіна ФРАНЦКЕВІЧ.*

## Знайшлася работа для трыццаці

***Аднавілася, дзякуючы выдадзенаму крэдыту па лініі Нацбанка РБ, будаўніцтва 30-кватэрнага дома для членаў жыллёва-будаўнічага кааператыва. За яго ўзвядзенне ўзялося мясцовае МПМК-158 і крыху было не трапіла ў тупіковую сітуацыю.***

Справа ў тым, што апошнія гады ў гэтай арганізацыі адбылося немала скарачэнняў працоўных. І так "даскарачаліся", што з тымі "рабочымі рукамі" за адведзены тэрмін МПМК-158 закончыць будоўлю ніяк не ўдалося б. Было вырашана набіраць зноўку муляраў, цесляроў, бетоншчыкаў— усяго 30 чалавек, на працу. Апошнія ўзрадаваліся.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Каму кубак, а каму і нічога

***Футбол— гульня мільёнаў. І хаця райцэнтру да мільённага горада ох як далёка, гэты від спорта тут любяць.***

— Нядаўна завяршыўся турнір на кубак раёна. У фінале сустрэліся КАФ "Астравец" і каманда міліцыі. Першыя выйгралі з разгромным лікам 9:1 і атрымалі пераходны кубак раёна па футболу, а другія засталіся ні з чым.

*Ян ТАРАШКЕВІЧ.*

## Папытаў, ці шмат сена нарыхтаваў

***Пасля даволі працяглага зацішша ў інфармацыйнай прасторы Астравеччыны з'явіліся весткі пра новыя прыгоды волата беларускіх лясоў— зубра.***

Калі год назад ён займаўся "старажоўствам" буракоў у калгасных буртах, пошукам "сваёй палавінкі" у хлявах жыхароў Задворнік, то на гэты раз з усёй сур'ёзнасцю і настойлівасцю, напэўна, пачаў рыхтавацца да зімоўкі.

Аднойчы раніцай памочнік брыгадзіра калгаса імя Мічурына на сваім уласным легкавіку накіраваўся на поле, каб паглядзець за ходам работ. Дарога ішла праз лясок, і ехаў ён не спяшаючыся, метр за метрам аддаляючыся ад бальшака.

Ужо павінна было паказацца поле, як на шляху машыны ўстаў... зубр, не даючы ніякай магчымасці праехаць. Праўда, трэба аддаць належнае волату за галантнасць: вёў ён сябе вельмі карэктна— з "кулакамі" на аўтамабіль не кідаўся, ды і прэтэнзій да памочніка брыгадзіра не прад'яўляў. Патрымаўшы такім чынам добра перапужанага кіраўніка амаль паўгадзіны, ён адпусціў яго, як гаворыцца, з Богам, даўшы зразумець, напэўна, што зімой зубру есці таксама хочацца.

Не ведаю дакладна, ці зрабіў якія-небудзь высновы з гэтай сустрэчы брыгадзір, але, трэба думаць, цар звяроў недарэмна намякаў на хуткую сустрэчу.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

Міласэрнасць

## Цэнтр дапаможа

***ВІЛЕЙКА. Цэнтр "Міласэрнасць" адкрыўся, каб аказваць медыка-сацыяльную дапамогу адзінокім і нямоглым.***

Гарвыканком выдзяліў памяшканне ў мікрараёне завода "Зеніт". Некалькі гадоў таму ўжо былі спробы аднавіць яшчэ дарэвалюцыйны інстытут сясцёр міласэрнасці. Тады прыбягалі сучасныя сястрычкі да хворых мераць ціск, дапамагчы па дому. "Родныя бацькі" "Міласэрнасці" раённыя аддзяленні Чырвонага крыжа і Дзіцячага фонду. У холе цэнтра плануецца раздаваць "гуманітарку" і рэчы, якія ахвяруюць самі вілейчане. Лепшае будзе адкладвацца ў так званы банк. Жыццё непрадказальнае, мала якая бяда здарыцца ў чалавека. І ён зможа своечасова знайсці неабходную рэч.

У цэнтры "Міласэрнасць" працуе Валянціна Літвічэнка, медык. Яна можа аказаць і першую медыцынскую дапамогу, і ін'екцыю ўвесці. Дзеля гэтага ёсць спецыяльны медыцынскі пакой. А ў распарадку прадугледжаныя гадзіны прыёму ўрача. Заведзеная картатэка на патэнцыяльных наведвальнікаў цэнтра. Тут чакаюць састарэлых, інвалідаў, мнагадзетныя сем'і, дзяцей-сірот і ўсіх тых, хто трапіў у бяду.

*Мікола ГАПАНОВІЧ.*

## Бясплатныя лекі

***ВІЛЕЙКА. Яшчэ летась раённае аддзяленне Чырвонага Крыжа атрымала падарунак ад дэпутата ВС РБ Уладзіміра Варашніна— лекавыя сродкі на 100 мільёнаў рублёў.***

На працягу года бясплатна лячыліся састарэлыя, нямоглыя людзі. Днямі Уладзімір Мікалаевіч дапамог пеніцылінам. Лекі будуць бясплатна атрымліваць па рэцэптах урачоў малазабяспечаныя сем'і.

*Аддзел інфармацыі.*

На тэмы маралі

# Хмель— не вада, дзецям— бяда

***Нават вядомы Шэрлак Холмс пазайздросціў бы, відаць, здольнасцям дзесяцігадовай Веры з вёскі Дварэц Яршэвіцкага сельсавета Валожынскага раёна. Застаўшыся дома без нагляду, яна наладзіла своеасаблівую рэвізію хатняй гаспадаркі. Агледзела ўсё. Не прамінула і сціплай скрыні, дзе захоўвалася звычайная соль. Менавіта тут і запрыкмецілі дапытлівыя вочы дзяўчынкі старанна прыхаваную паўлітроўку.***

Кволая дзіцячая рука хуценька пазбавіла гарэлку гэткага незвычайнага палону. Расказала пра знаходку-трафей сяброўкам. Разам вырашылі, што калі ёсць падобнае пітво, то яно павінна быць выкарыстана па прызначэнню. Талакой сабралі традыцыйную закуску: Вера прынесла цыбулю, Яна— хлеб і соль, Света таксама прыйшла не з пустымі рукамі. Дзве— па ўзросту аднагодкі, Света ж старэйшая ўсяго на тры гады. Ведаючы, што распіццё спіртных напіткаў— зусім недзіцячая справа, падлеткі вырашылі надзейна схавацца ў зацішку. Па нечай з траіх малалетніх кампаньёнак прапанове, забраліся на гарышча пустога інтэрната. Ці прыгадаліся ім словы з песні, што "чарачка ходзіць па кругу"— невядома, аднак апаражнялі бутэльку кіруючыся менавіта гэтым правілам. Дозу спажывання спіртнога вызначылі па ўласнаму жаданню. Але першую, як потым прызналіся, старанна размерылі "па сто". Асіліць да канца прыхватызаваную бутэльку ўсё-такі не змаглі: рэшткі вылілі на зямлю. Пасля заканчэння такой незвычайнай трапезы, пайшлі выконваць бацькоўскае даручэнне— выганяць кароў на пашу. Што іх малалеткі разамлелі не ад спякотнага летняга сонца, першымі запрыкмецілі маці, якія прыйшлі дадому падсілкавацца. Кожная з траіх дзяўчынак зарабіла, як кажуць, на арэхі. Заканамернай развязкай гэтага эпізоду стала абмеркаванне паводзінаў падлеткаў на выязным пасяджэнні камісіі па справах непаўналетніх. Непатрабавальнасць, нежаданне быць строгімі ў адносінах да правіннасцей дзяцей, абавязкова вернецца ў сям'ю бумерангам. Такі ўжо жорсткі закон расплаты за памылкі ў выхаванні.

У вышэйпамянёнай Святланы С. ёсць старэйшая сястра Аліна. Сёлета ёй споўнілася пятнаццаць. А прычына разгляду яе справы на пасяджэнні камісіі аналагічная— ужыванне спіртнога. Зразумела, не ў адзіночку, а разам з "закадычнымі" аднадумцамі. Адпаведна ўзросту былі і дозы спажытай гарэлкі. Ды і закуску гэтыя маладыя прыхільнікі Бахуса выбралі з прэтэнзіяй на вясковую фанабэрыстасць. Заядалі пякучае пітво дарагім шакаладам, такімі ж цукеркамі і пячэннем. Аказваецца, усе гэтыя абавязковыя атрыбуты застолля былі набытыя на ўкрадзеныя долары, якія ўдалося памяняць на пачастункі і гарэлку ў аднаго мясцовага фермера. А дзе выпіўка— там і маральная, духоўная дэградацыя падлеткаў. Статыстыка пераконвае, што пік дзіцячых злачынстваў, разнастайных правіннасцей, прыходзіцца на лета. Школа на працяглы час выпускае хлопчыкаў і дзяўчынак са свайго клапатлівага гнязда, а дзеці, трапіўшы, вобразна кажучы, на волю, п'янеюць ад яе, не могуць з карысцю распарадзіцца гэтым багаццем. У жыццёвым раскладзе бацькоў з-за нястрымнага патоку штодзённых турбот скупавата месца адведзена выхаванню родных дзяцей. А адсутнасць усялякага выхавання— таксама выхаванне. Толькі плады яго да болю горкія!

Па гэтых фактах падлеткі давалі пісьмовыя тлумачэнні. Няроўныя, груба выведзеныя на аркушы літары, у словах— мноства памылак. Такая неахайнасць і насцярожвае, і бянтэжыць адначасова. Можна сумнявацца, ці знайшлі гэтыя юныя горалетуценніцы час, каб на працягу доўгіх канікулаў хоць аднойчы наведаць бібліятэку, каб заняцца іншай карыснай справай.

... За далёкі гарызонт закацілася яшчэ адно лета. На цыферблаце часу новая пара года. Але сумаваць па сонечных дзяньках нявáрта: у прыродзе ўсё паўторыцца наноў. А вось у лёсе людзей, у прыватнасці, гэтых дзяўчынак-малалетак, лепш было б, каб некаторыя абставіны ўжо не паўтараліся ніколі. Тым больш, што прыхільнае жыццё дае столькі шанцаў для выпраўлення памылак. Даем яго і мы, не называючы прозвішчаў і сапраўдных імёнаў гераінь гэтай публікацыі.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

